# „МАЛАНКА“

## ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ.

# 1927.



Рэдакцыя „МАЛАНКА“ Вільня, Гэтманская вул. № 4.

Друк. Крэйнэс і Кавальскі, Вільня, Вялікая 39.

ГОД ВЫДАН. II. Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem ЦАНА 30 ГРОШ.

ДВОХТЫДНЁВІК

# Маланка

ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4 «МАЛАНКА» | № 9 1-га ЛІПНЯ 1927 г. | ПАДПІСНАЯ ЦАНА на 1 год 8 злот. „ паўгода 4 „ „ тры мес. 2 „ „ адзін м. 1 „ | За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт. |
|---|---|---|---|

# Ой, мары, мары, як вы салодкі!..




**Сэнатар Багдановіч** (*да служанкі*): — Вазьмі, *Машенька*, павесь партрэты гэтых паслоў разам з царамі і папамі. Хлопцы они *хорошiе i полезные*. *Подкузьмилъ* я іх пры выбарах у Раду м. Вільні, — можа цяпер пры новых выбарах у Сэнат зноў іх *объегорить* удасца.

Эх, вось так мо' гадкоў з пару папрацую, а там... *Бѣлоруссы* паставяць мне памятнік за верную службу „Царю и Отечеству".




# Песьні паноў.

**ПАЛЯК.**

1.

Ох, каб мне пажычка
Хоць бы не вялічка,
Тагды даўбы раду
Я кожнаму — гаду!
Купіў-б кулямётаў
І калючых дротаў,
Трошкі tego-siego
І... хлеба białego.
Але... амэрыканец
Вось скупы паганец, —
Што дня дакляруе,
Толькі нас нэрвуе.
Не дае ён грошай
Для полькі харошай;
Кажа, што ў восень,
Як сена накосім,
Нажнем, намалоцім,
Ды... даўгі заплоцім.

2.

І яшчэ няшчасьце
Маем мы цяпер:
Ноту за нотай
Шле С. С. С. Р.
Нарабіў Кавэрда
Для нас шмат бяды. —
Страцілі пазыку,
Хоць лезь да вады!...

**АНГЕЛЕЦ.**

Ой я лопну, ссохну, здохну.
Прападу, як гнілы ком.
Гвалт! Ратуйце! Вось няшчасьце
Маю я з бальшавіком...
Ён бунтуе у Кітаі,
Узьняў ў Індыі пажар
І напусьціў па цэлым сьвеце
Ён сваіх чырвоных хмар.
Ой я лопну, ссохну, здохну;
Я ад злосьці ашалеў...
Сотні год жыву па сьвеце,
А такой бяды ня меў.

**ЧАНГ — ТСО — ЛІН.**

Гэй! Хутчэй складай манаткі,
Шмаруй салам ногі, пяткі.
Уцякай і днем і ночай,
Куды толькі глядзяць вочы!
Не памаглі гарматы, танкі,
Фунты, доляры і франкі
Чанг-Кай-Шэк мне справу псуе
Нішто ад Фэнга не ўратуе.
Чую я: задасьць мне перцу,
Што скажу тагды ангельцу?!
Бьець мяне, ой, бьець бяз концу, —
Што скажу цяпёр японцу?!
Страх з усіх канцоў нясецца;
Пэкін вось, як ліст трасецца.
Чую бедны што заплачу,
Як Мукдэн апошні страчу...

**Я. Маланка.**



# Сьвежыя навіны

✕ Кажуць, што паслы Ярэміч і Рагуля падалі просьбу самому Люцыпару каб загадзя прыгатаваў мейсцы Янцы Станкеўчыку ў пеклі дзе заместа смалы будуць прыпякаць яму ногі круцелямі з газэт „Сялянская Ніва“ і „Народ“.

✕ Кажуць, што „доктар“ Паўлюкевіч ў інтэрвью з карэспандэнтам аднае польскае газэты сказаў аб Кавэрдзе: „... это былъ послушный мальчикъ. Исполнялъ очень аккуратно всё что ему только приказывалі“...

✕ Кажуць, што ў сувязі з правалам кандыдатуры пасла Ярэміча пры выбарах у радныя м. Вільні, ён пастанавіў навучыцца лічыць да сотні, каб пасьля мець магчымасьць пералічыць усіх сваіх сваякоў, кумоў і партыйцаў.

✕ Кажуць, што сяляне в. Іванковічы, Моўчадзкай гміны, пастанавілі называць свайго солтыса „Сьцяпанам Падлізай“, бо вельмі-ж ён падлізваецца да камэнданта пастарунку і вучыцеля шпіка. „*Мельдуе*“ ім аб усім, што толькі разнючае і пачуе, а нават і аб тым, што дзед з бабай на печы гавораць.

✕ Кажуць, што В. Плаўсюк (які закладаў з доктарам Паўлюкевічам у Баранавічах „Прасьвету“) хутка створыць сваю новую партыю. Патрэбную дзеля гэтага адукацыю адтрымаў у „Вызваленьні“, „Н. П. Х.“, „П. П. С.“, „Белар. Народн. Радзе“, а цяпер ізноў заканчвае студыі ў „П. П. С.“.

✕ Кажуць, што ў сувязі з зацьменьнем сонца, якое адбудзецца 29 чэрвеня с. г. „Беларускі Дзень“, мае абярнуцца ў ноч, „Досьвіткі“ ўжо зусім не расьсьвітаюць, а „Беларускае Слова“ заменіцца ў воўчую брахню.

✕ Кажуць, што ў в. Вязаўцы, Дзятлаўскай гм. паліцыя шукала ў аднаго гаспадара яго партыйнага білету, які быў схаваны ў гумне ў сене. У гэтай справе была затрымана і атпраўлена для „бадання“ рыжая карова, зьеўшая разам з сенам і партбілет.

## ПЕРАВЕЎ.

Поп у часе лекцыі пытаецца вучня:

— А ну, Зацірка, перавядзі пабеларуску наступны славянскі сказ: „озлоблен бых і смірыхся до зела“...

— У аглоблях бык і павялі да сяла. — адказаў вучань.

*К. С.*

# Наш трыумфатар.



Сябра Крук. — Радны м. Вільні.

— Лётнік Ліндэнбэрг першы пераляцеў акіян з Амэрыкі ў Эўропу, а я — першы з беларусаў адчыніў дзьверы віленскага магістрату.

# Абое рабое.

На лекцыі беларускай мовы настаўнік пытае вучняў:

— Скажыце, хто напісаў паэму „Сымон Музыка“.

Усе маўчаць.

— Мацейчык! ты скажы.

— Дальбо'—гэта ня я!

Настаўнік пасьля скардзіцца бацьку:

— Ваш сын вельмі тупы: напрыклад, на маё пытаньне, хто напісаў „Сымона Музыку“ ён адказвае што гэта ня ён...

— Але-ж, пане настаўнік, не вядома, ці ён вінен. Можа і запраўды гэта ня ён напісаў.

*Р. З.*

## ПРЫЕМНАГА АПЭТЫТУ!

— Даражэнькі зяць, што-б ты рабіў, калі-б убачыў, што на мяне накінуўся воўк і пачаў-бы есьці?

— Ну, што-б рабіў?! Сказаў-бы яму... прыемнага апэтыту!

*К. С.*

## ВЕРЫЦЬ У ВАРАЖБУ.

— Чаму гэта ты жэнішся з Гануляй, — гэтаж яна, як кажуць, ня ў поўным розуме, а да таго старая, калекая і брыдкая?

— Але затое з пасагам. Дый калі памрэць, дык шкада ня будзе.

— А калі ты перш памрэш.

— Не! Хірамант Авадчеўскі мне казаў, што яна перш памрэць.

*К. С.*

# Баязьлівая.

Здарылася раз Мальвіне
Позна вечарам ісьці,
Дык знаёмага прасіла
Яе да хаты правясьці.

— Я баюся цёмнай ночы
І ад страху ўся дрыжу.
Ну і ноч!—хоць выкаль вочы.
Правядзі хоць за мяжу...

Ля мяне бліжэй ідзі ты
І рукою абымай,
А то здаецца мне—адна я!
Ой, трымай, мяне трымай!..

Пацалуй мяне ты, чуеш!
Праканаюся тагды,
Што ня чорт нас за нос водзіць,—
Што тут толькі—я ды ты!

Гэтак во, крапчэй прыцісьні
І яшчэ раз пацалуй...
Але-ж ня так занадта цісьні,
Ой, ня цісьні! Ой-ей-уй!..

*Шпак Восаўскі.*

# Слушна.

— У якой палітычнай партыі найлепш было-б быць беларускаму паслу, каб не папасьці ў Вронкі?

— У партыі пасла Аўсяніка.

— Гм... чаму?

— Гэта самая актыўнейшая партыя, якая чынна падтрымоўвае „topor ól państwowy“.

*К. С.*

# Праэкт дачы.



Сонечная ванна для украінскіх пісьменьнікаў паводле пляну арт. мастака Карпэнка. (Можа быць прыгодна і для беларускіх пісьменьнікаў. *Рэд.*). **„Зиз“.**

# Зацьменьне „Сонца эндэцыі“.

Пры выбарах 19—VI с. г. у самаўрад м. Вільні эндэкі панясьлі вялікія страты: страцілі 22 мандаты, а здабылі толькі 11.

(*З газэт*).




**Віленскія эндэкі:** Лепш-бы мы страцілі свае камяніцы, маёнткі, галовы, ці што хочаце, як страціць столькі мандатаў!..

**Гальяш Леўчык.**

## БЯДА.

Білі бяду канчукамі,
Ня сьпі, Бяда, з дзяцюкамі!
Білі Бяду сямі лет,
Пайшла Бяда на ўвесь сьвет.
Дзе-ж ты, Бяда, радзілася?
Дзе-ж ты, Бяда, хрысьцілася?
Я ў Менску радзілася,
Ў Барысаве хрысьцілася,
А ў Вільні узрасла,
Ў Польшчу замуж я пайшла!



## Спрытнае каханьне.

Хлапчына дзеўчыне клянецца:
Люблю цябе о, анел мой!
А сам ледзь-ледзь не засьмяецца
І шэпча ціха: чорт з табой...

Схіліўшы тварык ў асалодзе
Яна бімбоса абняла,
А перад тым у вагародзе
З другім гадзінку правяла.

І ціха льлюцца пацалункі,
Кіпіць ў грудзёх юнацкіх кроў,
А ў галаве ў абоіх думкі:
Каб уцячы хутчэй дамоў.

**М. Васілёк.**



# Ой, гэтыя выбары!

## *ПЕРАД ВЫБАРАМІ.*

— Не! ужо, мусіць, хутка канец сьвету будзе. Гэтак, мусіць, і ручанькі прыдзецца сашчапіць нічога добрага ня ўбачыўшы. Падумайце, людцы, сабе, ці-ж гэта ня сорам, каб яны падушыліся! Аж сьлезы бобам коцяцца, як падумаеш: жанчыны старыя, — дзяцей, як быкоў павыгадоўваўшы, або малых у хаце пакінуўшы, ці блізкі сьвет, ні селані-пала, на выбары пайшлі. Каб вы галовы сабе там пакруцілі!.. Ну і падумайце, як-жа ня плакаць, як тут сэрцу не балець, калі вось пад старасьць ці мала граху дазнаць давялося, бачучы, як усё на сьвеце ўверх дном перавярнулася, — гэтак плакала пабожная Барбара і далей лемантавала:

— Але... але... Запытайцеся вы ў старых людзей, як сьвет-сьветам, ці памятае хто, каб жанчына, разам з мужчынамі дый малакасосамі на нейкія там, каб яны згарэлі, выбары пайшла?!..

Але... але... праўду казаў поп, як у восені прыяздждаў, што паміж людзей нейкая бальшавізма пайшла. Гэта, мусіць, ня йначай сіла нячыстая якая ці што? Ходзіць па сьвеце ды людзей да пекла нагаварвае. Ой чуе маё сэрцайка што згінем без пары. Вун у сераду на ранку зацьменьне сонца было, дый і пагоды Бог не дае: то вятры то дажджы. — Канец сьвету ідзе ня мінучы. Эх, каб толькі я, ды Кацярына, Мальвіна, Паўліна — мы старыя бабы засталіся!.. а маладых хай ясны пярун павыпаліве, нават маей Юлькі не шкада. А як-жа! Яна-ўсё на новыя моды паварачвае, а каб паслухаць старой маткі дык ні ўчым ніколі. Казала-ж ёй: ня йдзі на выбары, а то людзі сьмяяцца будуць, дык-жа не, папёрлася, каб ты на скруты пёрлася! А муж яе дык чысты антыхрысты ці люцыпар які! Ён такое на паноў ды папоў выдумляе, што аж вушы вянуць слухаючы. Кажаць ён сёньня Юльцы: „пойдзем, Юлька, на выбары, бо як мы сяляне сваіх братоў мужыкоў выбіраць ня будзем, дык паны ды ксяндзы у гмінную раду паўлазяць, а нам, мужыкам, хфігу пакажуць“, а тая не падумаўшы, ды са мной не парадзіўшыся і папёрлася. Ну ці чулі вы, людцы, каб бедны чалавек, цёмны той мужык з панам ці ксяндзом раўняўся?!

Бальшавікі, а ня людзі!..

А моладзь цяпер пайшла, дык хоць ты вока сабе выкаль, каб на яе толькі не глядзець. Пудрышмудры павыдумлялі, ведама, тыя лахудры! А спадніцы дык па калена; ногі тыя, як цыбы, — усёусенькае відаць. А ідзець, дык як чорт няйначай: тут сьвеціцца, там прасьвечвае.

Вось каб я так даўней апранулася, дык мой Сьцяпан дзяжкай так зад адчысьціў-бы, што месяц на лаву ня села-б, дый другому заказала-б.

Ой, пасівела мая галованька, не глядзяць мае вочанькі, пасохлі мае ручанькі, а ўсё праз тое, што распуста па сьвеце пайшла.

Ой, каб хоць хутчэй канец сьвету прыйшоў. Каб Бог усіх людзей вагнём-серкай павысмаліваў. Ой-ей-ей-ей!..

Але-каб толькі адна я засталася. — Хачу яшчэ гадкоў з дзясятак пражыць...



## У веку машын.



— ... У гэту пару зьявіліся міліцыянты і схапілі мяне за машынку!

— А за што-ж цябе ўзялі!?

— Вось чудны чалавек! Я-ж кажу: за машынку, што ў канцыляры сьпёр.

### ШТУКАРЫ.

— Бачыў я ў цырку штукара цягнуў з роту стужку і выцягнуў мэтраў пяць.

— Э, гэта нічога! Вось у нашай коопэратыве штукары сядзелі. Тканіну цягнулі-цягнулі — мэтраў пяцьсот выцягнулі.



**Каля электрычнага лічніка.**

— Го—спадзі! Хоць бы прадукцыйнасьць працы паменшылася!

## 10-гадзін. дзень працы



Яна: — Сонца ўжо заходзіць,— нам пара ісьці.

Ён: — Ну, і няхай сабе заходзіць...

Яна: — Даражэнькі мой, ужо позна!

Ён: — Нічога, — я сёньня буду працаваць 10 гадзін.

### ДОБРАЯ ДАЧКА.

—Мама, паднясі за мною кніжкі ў школу. Хай людзі думаюць, што мы трымаем служанку.

*З радавага гумару.*

### *НА ВЫБАРАХ.*

Выбары ідуць поўным тэмпам. З усіх бакоў сходзяцца сяляне і перад гмінным урадам стаіць тысячны натаўп.

— Як сьвет сьветам, ніколі столькі людзей ня было на выбарах,—роспачна кажа войт.

— А ўсё грамадаўцы вінны. Тыя дык жывых і няжывых на выбары пасылаюць,—уторыць яму пісар.

А ў суседнім пакоі сабралася „сьмятанка“ гміннай эндэцыі і ламае галовы над стварыўшайся сытуацыяй.

— Прапалі ўсе нашыя стараньні, нізы бяруць гару,—не сказаў, а прасіпеў *пан дзедзіц.*

— Ой, бяруць... бяруць,—уздыхнуў арганісты.

— І галоўнае слухаць ня хочуць,—зноў прасіпеў *дзедзіц.*

— Бязбожнасьць пайшла ў народзе,—азваўся ксёндз. Я іх і пеклам і гарачай смалой страшыў,—нічога не памагае: я ім сваё, а яны сваё. Вы, пане *дзедзіцу,* паўгміны трымаеце ў сваіх руках, спрабуйце прамовіць да „тлуму“.

— Трэба ратаваць сытуацыю! — сказаў *пан дзедзіц* і яго аплыўшая салам фігура зьявілася ў адчыненым вакне.

— Ціха! Ша! Кажу вам, людзі, галасуйце за нашых кандыдатаў, бо толькі на нашым сьпіску самыя найлепшыя кандыдаты. Мяне вы добра ведаеце, майго упраўляючага таксама, а мой аканом усім вядомы, бо яго бацькі і дзяды яшчэ за паншчынай служылі ў маім двары. Далей, настаўнік Капуцынскі вельмі чэсны чалавек, бо аж з Галіцыі яго да нас прыслалі. Рэстаўратар Трыпузінскі гэта — ваш дабрадзей, бо і ў дзень і ў ночы служыць вам у патрэбе. Асаднік Хватай-Лапай за вас кроў праліваў. Мацей Бізуноўскі у паліцыі служыў і вам таксама добра вядомы. Далей закрыстыян Гасісьвецкі, за яго ваш ксёндз-пробашч паручыцца можа.

Кажу-ж вам, людзі, што ня трэба доўга затрымлівацца над тым за каго галасаваць, бо на нашым сьпіску same porządne ludzie. Вы народ цёмны і неасьвечаны, а дзеля таго не павінны ламаць сваіх галоў над тым за каго аддаць свой голас, на гэта ёсьць мы — паны, каб за вас у патрэбе думаць.

— Прэч яго! Прэч,—зашумела мора галоў.

— Кажу вам... кажу вам... прабаваў перакрычаць пан.

— Кажы сваей жонцы!

— Калі будзеце перашкаджаць, пазаву паліц...

— Прэч!.. Прэч!.. Прэч... — грозным рэхам няслося адусюль.

У паветры махалі кулакі.

*Пан дзедзіц* нярухома апусьціўся на крэсла. На лысай галаве яго выступіў халодны пот.

— *Нема паслушеньства в народзе,* — прастагнаў ксёндз.

— *І свэго научыцеля людовэго не слухаён,*—бядаваў настаўнік.

— *І вудкон нікого тэраз подкупіць не можна,*—сказаў рэстаўратар.

— *І поліцыі мало сенбоён,* — дадаў камэндант.

— *Конец сьвяту... конец сьвяту* казала, — пабожная дэвотка і шаптала пацеры.

Войт дрыжэў. Пісар бялеў.

— Беларусы верх узялі! — гучалі ў натоўпе.

— Гура!!!

# Наш праэкт.

„З ліпня месяца ў Вільні пачне выдавацца месячная часопісь літэратуры, крытыкі, экономікі, палітыкі і краязнаўства пад назовам“ „Беларуская Культура“

(*„Беларускі Дзень“ № 15*).




Услужная „Маланка“ падае праэкт вокладкі для проэктаванай новай часопісі. Аўтарскага ганарару зусім не жадае.

# Народны гумар.

## НЕ ПАМЫЛІЎСЯ.

Бацька сыну купіў польскі лемантар. Сын чытае, а бацька слухае:

— А... Бэ... Цэ...

— Абяцаюць! — падумаў бацька.

— Дэ... — далей чытае сын.

— Але хвігу дадуць? — голасна сказаў бацька.



## ШКАДУЕ.

— Скажы мне, Наста, што думае цяпер твой Вінцук, як ты адмовілася выйсьці за яго замуж?

— Ой, вельмі шкадуе што не ўдалося ўзяць лысай каровы і гнедай жаробкі.

*В. К.*



## ЭТ, ГЛУПСТВА!

— Янкель! ці праўда што ўчора Даніла табе галаву разьбіў?

— Э, дзе там! Я яму дупцікам як цік, дык цік, а ён мне толькі мяшком.

— А што ў тым мяшку было?

— Эт, глупства! старая сякера і два нарогі.

*В. К.*



## І БАЦЬКА ПАЖЫДОЎСКУ ЗНАЕ...

Зьбіраюцца два хлапцы ісьці на вечарыну. Каб бацька не перашкодзіў, змовіліся гаварыць „пажыдоўску“.

— Паўлюк!

— Што?

— А гэр... пойдзем!

— А гэр... куды?

— А гэр... гэр... на вечарыну...

— А гэр на печ, с... дзеці! — крыкнуў пачуўшы бацька.

— Бач! — зьдзівіліся хлопцы, і бацька пажыдоўску знае!

**Шпак В.**



## ГЛУХАЯ Ў СПОВЕДЗІ.

**Поп:** Чым грашна?

**Баба:** У новай спадніцы прышла.

**Поп:** Я пытаю чым грашыла?

**Баба:** Была вялікая дык перашыла...

**Поп:** Глухая цяцера!

**Баба:** Ну, як няма часу цяпера, дык заўтра прыду.

*Э. М.*



## РАЗГАВАРЫЛІСЯ.

Селянін ловіць рыбу. Праходзіць паліцыянт і пытае:

— *Рыбы сом?* (ці ёсьць рыба?)

— Не, — адказвае селянін: тут толькі акуні ды плоткі, а самоў няма.

*Э. М.*



## *ПА ВЫБАРАХ.*

— Музыка! — Лявоніху! сёньня наша ўзяла!..

„Лявоніха душа ласкавая
„Чаравічкамі палясківае...“ —

пяялі дзяўчаты, а ў куце сядзелі старыя і вялі гутарку.

— Але вось задалі індыкам...

— Ня індыкам, а андэкам...

— Ага гэтым... андэкам чэпалаху. Яны думалі што мы такія самыя дурныя, як былі калісь пры Мікалашчы. Хоць парадкі мала чым зьмяніліся, алеж мы перамяніліся.

— А я не казаў, што трэба маладых цяпер слухаць: цяпер маладзейшыя—разумнейшыя.

— Не памагло і тое, што пан панастаўляў у мястэчку сваіх крыкуноў падлізаў, якія цэлы дзень, як салаўі заліваліся: проста рай нам на зямлі дакляроўвалі. А людзі... Не падманеш!

— Кажуць абшарнік са злосьці аж самлеў, дый так што ледзь фэльдчар кроплямі ачухаў.

— Можа сала ў яго крыху спадзецьі..

— Ха-ха-ха! Вось добра ня трэба і заграгічных лекаў.

— А ксяндзова ахмістрыня як дачулася што беларусы верх узялі, дык казала, што на небе нейкі знак бачыла і казала, што хутка канец сьвету будзе.

— А настаўнік казаў, што, мусіць вайна, або пошасьць якая будзе, бо ў сераду зацьменьне сонца было.

— Дый у яго, дзякаваць Богу, амаль што дзень зацьменьне ў вачох бывае. Як напьецца, дык ніяк п'яны да хаты не пападзе: то ў роў заваліцца, то пад плотам сьпіць.

— А вось Трыпузінскі дык той найлепш зрабіў. Пасьля выбараў прыйшоў да хаты як шалёны, дый кажа: „хамы верх узялі, — усё роўна нічога добрага ня можна спадзявацца. Са злосьці, амаль, цэлы літр гарэлкі выжлактаў, а пасьля схапіў сякеру ды абухам па бутэльках, па бутэльках. „Лепш,— кажа, хай маё дабро пропадам прападзе, як мае хамам даставацца“. Пабіў каля сотні бутэляк з гарэлкай, а пасьля пачаў валасы на сабе рваць, дый галавой аб сьценку біцца

— Ха-ха-ха!.. вось задалі перцу панам і паўпанкам! — сьмяюцца людзі.

— Гоц-гоц-гоца-ца-гоца-ца!.. — пяюць хлопцы і нагамі прытупваюць. Хата трасецца, як студзень у місцы.

— Цяпер і я сваёй Тэклі новую спадніцу куплю. Дваццаць гадоў з ёй жыву, а не спадзяваўся, што яна гэткая адважная. Падыйшоў той, што ў касьцеле сьвечкі папраўляе, дый кажа: „вы, бабулькі, на пана Эндэцкага галасуйце, бо і ксёндз так казаў“. А яна яму, ня доўга думаючы, адпаліла:

— А ці казаў табе ксёндз, каб ты пад старасьць паразумнеў і перастаў быць панскім адвакатам, бо пан і свой язык добры мае?!

— Ай-да малайчына! Вось дык бой-баба!..

**Янка Маланка.**



## Дзядзька Хвядос і малакасос.

„Што? зноў на сход? дый зноў даклад?
Вучыць старых ты заўжды рад
А сам яшчэ малакасос“, —
Сказаў мне раз Хвядос.
„Цяпер з старых дык проста зьдзек
Пражыў мой дзед і бацька век,
І я дзесятак не адзін
Жыву бяз вашых тых навін“...
—„Няпраўда гэта. Дзядзька мусіць
Ці памыліўся, ці мо' хлусіць,
Ня бачыць, што ў яго пад носам,
Павёў я гутарыу з Хвядосам;
„Твайму дзядулю-небараку
Ня раз пан сек лазою сьпіну,
А бацьку плёткай стражнік, прыстаў, —
Вазьмі-ж цяпер сваю ім выстаў.
Твой дзед канякай, як блыхою
Капаў сяк-так загон сахою,
А ты цяпер свае загоны
Арэш вун плугам параконным
Ты сам завёўшы гэту спрэчку
Сярпом нядаўна рэзаў сечку,
Цяпер сячкарняй, а ўжо у сына.
Дык будзе лепшая машына
А варт яна рублёў мо' трыста
І ты сьмяешся з дзеда дурня
Што ён няхайна жыў у курнай
Дык вось разжуй цяпер ты дзядзька:
Каб заўжды жыў так сын як бацька,
А бацька жыў-бы так, як дзед
Дык і дагэтуль яшчэ сьвет
Такі-б быў самы акурат,
Як тысяч сто гадоў назад:
Ня ўмелі-б хат мы будаваць
Ня ўмелі-б быдла гадаваць
І гатаваць яды-б ня ўмелі,
Зьвяракі нас, мы іх-бы елі,
Адзін другога—хто каго,
А то глядзі вун чаго
Дайшоў сучасны чалавек!
Аж дзіўна робіцца ўжо нек:
Ня мае роўных ён нідзе,
Ні пад вадой, ні на вадзе.
Ў паветры лётае так хвацка,
Бо разумнейшы сын, як бацька.
Падумаў тут Хвядос хвіліну,
Пачухаў пуп, пачухаў сьпіну,
Пасьля сказаў: „Малакасос,
Але падцёр старому нос“.

**Крапіва.**

## РАПАРТ.

Пан, пад апекай старшага канюха, адсылаў свайго любімага каня на выстаўку ў места. Па дарозе жарабец здох, а канюх рапартуе пану:

„Міласьцівы пан сівы жарабец здох скуру вашу панскую зьдзер і прадаў а за грошы для вашай міласьці хамут моцны купіў аб чым данашу рапартую і шчыра дзякую.

*Канюх Аброцька.*



## Наша інтэлігэнцыя.



— Дарожэнькі пойдзем у беларускі народны дом на вечарыну.

— Э... што там беларуская вечарына! Лепш забяромся да рэстаўрацыі Нішкоўскага. Там, ведаеш, кабарэт!!! — голыя ножкі, найкарацейшыя спаднічкі, а з куплетаў цячэ столькі сала, што да гарэлкі й закускі не патрэбна.

## Гаспадарскія, праўныя і інш. карысныя парады.

**Пытаньне:** Як гаспадар можа найлепш дабіцца лапцей?

**Адказ:** Перш трэба выгараць мяжу свайму суседу, а калі можна, дык баразён з пяць залезьці ў яго ральлю, забіць там калы і зрабіць новую мяжу.

Як сусед будзе адбіраць сваё поле назад, дык трэба падаць у суд і ўзяць добрага адваката. А калі суд ня прысудзіць у тваю карысьць, падаць у акружны і ўзяць яшчэ лепшага адваката, каб тваіх кішанёў не шкадаваў. Калі-ж і гэта не паможа, дык падаць далей і далей аж пакуль не прадасі ботаў, а справіш лапці, альбо зусім застанесься босы.

**Пытаньне:** Што трэба зрабіць з бацькам, каб усё жыцьцё „благаслаўляў“.

**Адказ:** Трэба перш ажаніцца, пасьля падзяліцца, сварыцца, пабіцца судзіцца, дык бацька будзе цябе „благаслаўляць“ ды хваліцца...

**Пытаньне:** Што трэба рабіць каню каб быў падобны на чорта?

**Адказ:** Трэба адрэзаць каню хвост і грыву як найкарацей ды прывязаць у летку ў кусты. Як адарвецца, дык будзе ўцякаць як чорт.

**Пытаньне:** Як прадаць каровуялаўку за цельную?

**Адказ:** Трэба зьбіць яе з заду пранікам; каб аж спухла; тагды кожны паверыць што цельная.

**Пытаньне:** Што трэба зрабіць каб курыца спакойна няслася?

**Адказ:** Трэба накрыць замест рэшата камянем.

**Пытаньне:** Што трэба зрабіць каб у марцы (сакавіку) сьпявалі салаўі?

**Адказ:** Трэба трымаць у хаце штук пяток кошак.

**Пытаньне:** Што рабіць, каб мець гатунковых мышэй?

**Адказ:** Найлепш не малаціць збожжа аж да вясны.

**Пытаньне:** Як уберагчы маемасьць ад злодзеяў?

**Адказ:** Ня трымаць нічога ў хаце, а ўвесь статак, збрую, грошы, збожжа несьці ў карчму.

**Пытаньне:** Што трэба рабіць каб дачка „мела славу“ на ўсю ваколіцу?

**Адказ:** Заклікаць да сябе як найчасьцей ў госьці паліцыянтаў і асаднікаў.

**Пытаньне:** Што трэба зрабіць, каб усе газэты аб табе пісалі?

**Адказ:** Схадзіць да хіраманта, а потым паступіць да Паўлюкевіча на службу на вакантнае па Кавэрдзі мейсца.

Злажыў:
**С. Вясёлыя Ногі.**



## У ФЭЛЬДШАРА.

— Панэ фэршал! Што рабіць майму мужу ад прастуды?

— Трэба банькі паставіць.

— Э, гэта нічога не паможа: у часе бараньня яму два разы банькі стаўлялі, а ўсе-роўна сьпіна і бакі і цяпер баляць. *К. С.*



## ДОБРАЯ АТТЭСТАЦЫЯ.

— Скажыце, калі ласка, як вас завуць?

— А як хто хоча: жонка—распусьнікам, бацька—гультаём, судзьдзя—злодзеем, толькі адзін адвакат хваліць.



# Біблійная гісторыя ў малюнках.

(Выгнаньне Адама і Эвы з раю).




Янка Станкевіч выключыў з партыі „Сялянскага Саюзу“ паслоў Ярэміча і Рагулю, а таксама і сэкрэтара партыі — Адама Більдзюкевіча.

*(З газэт).*

## НАША ПОШТА.

**Янка Тарыкаў**: Жарт „Праізвядзеньне“ перадалі ў Белар. тэатр. дружыну, — мо' там яго выкарастаюць. У „Маланцы“ перакладаў амаль што не зьмяшчаем, а тым больш ганарараў ня плацім.

**Екодуд**: Жарт слабы.

**Савлучок**: Гэта стары і ўсім вядомы жарт.

**Шпак Восаўскі**: Вы пішаце нам: „... калі ня зьмесьціце маей „Падслуханай гутаркі“, дык бывайце тагды на заўсёды! Займуся тагды музыкай, скокамі, чым хочаце, толькі ня творчасьцю“. А ведаеце што? — Вы маеце зусім слушную рацыю!

**Бядун**: Вы *бядуеце*, што ня ведаеце дзе свае вершы зьмяшчаць. Не бядуйце! — у нашай рэдакцыі кошык вялікі.

**Т. Бычок**: Гэтым разам з Вашых жартаў і конь сьмяяцца не хацеў.

**Ю. Сэргіевіч**: Ваш „Грэх“ можа-б і зьмесьцілі, каб ня той (бадай яго ліха!) артыкул 74 К. К. Іншыя вершы яшчэ паляжаць у рэдакцыі, мо' чаго і дачакаюцца.

**Л. Драч**: Ад Вашых „жартаў“ спаць хочацца.

**Кіз-зік**. Мала гумару.

**Каст. Задубляжкі**: У вершах Вашых думка добрая, але тэхнічнае апрацаваньне настолькі слабое, што трох сябраў нашай рэдакцыі ламалі сабе галовы над шліфаваньнем іх дый рашылі: „ў кошык!“

**А. Дзіўны**. Вы просіце паведаміць Вас чаму Вашы вершы ня друкуюцца ў „Маланцы“. Які Вы дзіўны! Ці Вы ня чытаеце іншых вершаў і ня прыраўніваеце іх з сваімі? Каб ацаніць Вашы вершы даем невялічкі абразок іх:

„Ты, маланка, выпаль вочы,
„А гром няхай у лоб дасьць,
„Каб да здрады хто ахвочы, —
„Паляцеў у вечну пропасць“.

Пакуль не навучыцеся добра пісаць, вершы Вашы сьвету ня ўбачаць.

**К. Сьветавастокаў**. Шчыра Вам дзякуем за частую памяць аб нас. Але, на вялікі жаль, жарты Вашы ў большай колькасьці пайшлі ў кошык, бо гэтыя жарты старыя, як сьвет і ілюструюць жыцьцё старай расейскай арыстакратыі (гэнэралаў, губэрнатараў і г. п.), што нас зусім не цікавіць. Ахвотна зьмяшчаем жарты на сучасныя тэмы. Пішыце больш!

**Шут Балакір**. З вашых вершаў і жартаў добры матэрыял для нашага рэдакцыйнага кошыка.

## Грамадзяне!

Хто задаўжыўся „МАЛАНЦЫ“, — урэгулюйце свой доўг!

Пры наступным № 10 „Маланкі“ вышлем усім нашым даўжнікам рахункі. Хто ў працягу гэтага ліпня м-ца ня прышле азначанай у рахунку сумы, таму высыланьне „Маланкі“ спынім.

**Сяляне і работнікі**! ня будзьце ворагамі сваей часопісі. Кожны неаплачаны рахунак вялікі цяжар для бюджэту „Маланкі“.

**Адрэс Рэдакцыі:**
*Вільня, Гэтманская вул. № 4*
*Рэдакцыя „Маланка“.*

Рэдактар **М. Луцэвіч**. — Выдавец: **Я. Маразовіч**.

Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.



ЦАНА КАМПЛЕКТУ — 2 зл. 70 гр. (з паштов. перасылкай) — ТРЫ ЗЛОТЫХ.